# СЛАВА ВЯЛІКАМУ КАСТРЫЧНІКУ!

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 88 (1622) | Аўторак, 7 лістапада 1961 года | Цана 4 кап.



Уладзімір Ільіч ЛЕНІН

Мал. П. Васільева.

## ПАД ЛЕНІНСКІМ СЦЯГАМ

Прыпамінаецца лаканічная сцэнка з горкаўскіх нарысаў «Па Саюзу Саветаў». У бурлівым семнаццатым годзе на адной з вуліц Петраграда сабраўся натоўп разнашэрсных людзей—узнік звычайны для таго часу стыхійны мітынг. У цэнтры ўвагі быў «рослы, барадаты салдат, у жалезным кацялку на галаве, з вінтоўкай за вострым плячом», «правая рука—на зашмальцаваным тальмаху». Салдат гаварыў:

«— Зямлю мы абавязкова ў свае рукі возьмем, — абавязкова! І ўсё на ёй перабудуем...

— Круглая будзе, як гарбуз,—насмешліва ўставіў пан у кепцы.

— Будзе!—сцвердзіў салдат.

— Горы ж, відаць, зрыеце?

— А—што? Перашкодзяць, і горы зрыем.

— Рэкі ж, відаць, назад пацякуць?

— І пацякуць, куды скажам. Чаго смяешся, барын?

Насміхаўся камлюкаваты, круглатвары чалавек з чорнымі вусамі.

Салдат схапіў яго за плячо, страсянуў і сказаў у твар яму:

— Дай час, паразумнее народ, ён табе, дурню, такое пакажа, што ў пояс паклонішся».

Характэрны, з вялікім гістарычным сэнсам дыялог. Многа скептыкаў і зацятых ненавіснікаў—«у кепцы» і галалобых, «камлюкаватых, круглатварых» і сухіх, як вобла, з вусамі і бязвусых—адточвала сваю іронію, хіхікала і пацірала рукі ў прадчуванні небывалай камедыі, назіраючы, як просты народ, забіты і цёмны ў мінулым, бярэ ў свае рукі гаспадарку краіны, каб перабудаваць яе па-новаму.

Дзе яны цяпер, гэтыя вартыя жалю гумарысты? Калі сёння і пачуецца з якой-небудзь буржуазнай падваротні той даўні скептычны смяшок у наш адрас, то людзі шукаюць: хто тут вар'ят?

Старому свету сёння не да смеху. Усё новыя і новыя мільёны людзей на зямлі ўвачавідкі пераконваюцца, што адзіны разумны шлях грамадства — шлях сацыялізма і камунізма, на які сталі ўжо народы многіх краін. Дыктатары старога свету і іх ідэалагічныя лакеі глыбока занепакоены сваёй змрочнай перспектывай. І яны ўсяляк стараюцца падмаляваць сучасны капіталізм пад народны лад, навесці на яго дэмакратычны глянец. Але гэтым самым толькі трапляюць у становішча камедыянтаў, якія на поўным сур'ёзе стараюцца вярнуць учарашні дзень.

За час свайго панавання капіталізм даволі выразна паказаў сваё нутро, і якімі фарбамі ні падмалёўвай яго, народ не ашукаеш. Тое, што збуцвела дашчэнту, не падрамантуеш.

Маладосць свету, абнаўленне зямлі чалавецтва звязвае з ідэямі камунізма, з вялікімі ідэямі Маркса і Леніна.

Горкаўскі «барадаты салдат», селянін у шэрым шынялі, паверыў бальшавікам, смела пайшоў за імі і не памыліўся. Ён стаў гаспадаром жыцця і калі не сам, дык яго нашчадак ідзе сёння ў святочнай калоне з горда ўзнятай галавой: глядзіце, на якія цуды здольны чалавек, разняволены ад ланцугоў эксплуатацыі і бяспраўя!

А навокал яго, па ўсім неабсяжным прасторы Радзімы, сапраўды нешта цудадзейнае. Краіна сахі і курадымнай лучыны, невуцтва і забабонаў ператварылася ў краіну магутных фабрык і заводаў, першакласнай тэхнікі, самай передавой у свеце навукі і культуры. За сорак чатыры гады — для гісторыі гэта адно імгненне!—савецкі народ здзейсніў такое, што не ўкладваецца ні ў якія старыя ўяўленні аб магчымасцях чалавека.

Яшчэ больш хвалюючыя і радасныя здзяйсненні чакаюць нас наперадзе. Сорак чацвёртую гадавіну Вялікага Кастрычніка савецкія людзі святкуюць пад магутным уражаннем XXII з'езда роднай партыі, які нядаўна адбыўся. З'езд урачыста абвясціў, што наша краіна ўступіла ў паласу разгорнутага будаўніцтва камунізма — самага справядлівага ладу на зямлі, на сцягу якога напісана: Мір, Праца, Свабода, Роўнасць, Брацтва і Шчасце ўсіх народаў. Спрадвечная мара людзей становіцца явай.

Мы ўжо не гадаем, якім будзе той запаветны дзень, мы бачым яго выразныя абрысы, бо ён нараджаецца ўжо сёння, у натхнёнай творчай працы савецкіх людзей. Новая Праграма партыі, прынятая з'ездам, спалучыла ў сабе смелы погляд у будучае з цвярозай ацэнкай сённяшніх дасягненняў народа. І таму кожнае яе слова кладзецца на сэрца і робіцца словам непахіснай веры.

Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме! Гэта сказала партыя. Значыць, так і будзе. Аглянемся ў мінулае, і мы ўбачым характэрную з'яву: усё, што абвяшчала наша партыя ў сваіх праграмах і планах, збывалася са здзіўляючай дакладнасцю. Узяты XXII з'ездам курс на будаўніцтва камунізма адпавядае жыццёвым інтарэсам савецкага народа, інтарэсам усяго чалавецтва. І ніякія сілы не здолеюць стрымаць магутны поступ краіны Саветаў да мэты, вызначанай Камуністычнай партыяй.

Уся атмасфера грамадскага жыцця ў нашай краіне спрыяе сёння паспяховаму выкананню пастаўленых задач, шырокаму разгортванню народнай ініцыятывы. Партыя рашуча асудзіла культ асобы Сталіна, прыняла ўсе захады, каб нішто больш не замінала нам жыць і працаваць па ленінскіх запаветах. Шырокая сістэма новых мерапрыемстваў у галіне эканомікі і ідэалогіі рашуча паскорыла наш рух наперад, яшчэ больш умацавала маральна-палітычнае адзінства народа. У адказ на мудрую ленінскую палітыку партыі савецкія людзі адзінадушна заяўляюць аб сваёй непахіснай вернасці ленінскаму сцягу.

У адзіным страі савецкага народа ідуць працаўнікі культурнага фронту, дзеячы літаратуры і мастацтва. Камуністычнае будаўніцтва—усеабдымны працэс. Ствараючы матэрыяльна-тэхнічную базу новага грамадства, партыя адначасова забяспечвае ўсё неабходнае для паспяховага завяршэння культурнай рэвалюцыі, стварэння ідэалагічных і маральных прадпасылак камунізма. Пачэсная і адказная роля належыць у гэтай справе літаратуры і мастацтву. Іх задачы сёння нязмерна ўзрастаюць.

Партыя заклікае майстроў слова і дзеячоў мастацтва да яшчэ больш цеснага ўмацавання сувязей з жыццём, са справамі народа, да яшчэ больш яркага паказу ўсяго новага, што нараджаецца сёння ў нашай рэчаіснасці. Трэба, каб нашы мастацкія творы былі такімі яркімі і пафаснымі, як само жыццё будаўнікоў камунізма. Услаўляючы веліч нашага часу, духоўную прыгажосць савецкіх людзей, з грамадзянскім гневам выкрываючы ўсё, што нам не да твару, літаратура і мастацтва дапамагаюць партыі выхоўваць чалавека будучыні, свабоднага ад заган, якія стагоддзямі напластоўваў на яго эксплуататарскі лад, чалавека гарманічнай душы, высокай свядомасці і высокай культуры пачуцця.

Як магутны пражэктар, асвятляюць ідэі XXII з'езда партыі шлях чалавецтву ў камунізм. Мы не цешым сябе надзеяй, што гэта будзе параднае шэсце да казачнай «обетованной» зямлі. Але мы з цвёрдай упэўненасцю выйшлі ў паход, бо нас вядзе выпрабаваная ў баях Камуністычная партыя, бо над намі—непераможны ленінскі сцяг.

Будучыня належыць камунізму!

## ПА ШЛЯХУ ПЕРАМОГ

### Урачыстае пасяджэнне ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў

МАСКВА, 6 лістапада. (ТАСС). Сёння ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў сабралася больш чым шэсць тысяч прадстаўнікоў працоўных Масквы—рабочыя, работніцы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, ветэраны слаўнай ленінскай гвардыі, героі Кастрычніцкага штурму, воіны Савецкіх Узброеных Сіл. Яны прыйшлі сюды на ўрачыстае пасяджэнне Маскоўскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных, прысвечанае святкаванню 44-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

У глыбіні сцэны — велізарны партрэт заснавальніка Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы—вялікага Леніна.

17 гадзін. Прысутныя бурнымі апладысментамі сустракаюць з'яўленне ў прэзідыуме таварышаў Л. І. Брэжнева, Г. І. Воранава, Ф. Р. Казлова, А. М. Касыгіна, О. В. Куусінена, А. І. Мікаяна, Д. С. Палянскага, М. А. Суслава, М. С. Хрушчова, М. М. Шверніка, В. В. Грышына, П. Н. Дзёмічава, Л. Ф. Ільічова, Б. Н. Панамарова, А. Н. Шалепіна, прадстаўнікоў партыйных, савецкіх, прафсаюзных, камсамольскіх арганізацый, грамадскасці сталіцы.

На ўрачыстым пасяджэнні прысутнічаюць госці XXII з'езда КПСС—кіраўнікі і члены дэлегацый камуністычных і рабочых партый зарубежных краін, якія засталіся па запрашэнню ЦК КПСС для ўдзелу ў святкаванні 44-й гадавіны Вялікага Кастрычніка. У ліку зарубежных гасцей, якія прыбылі ў Маскву на святкаванне гадавіны Кастрычніка, — дэлегацыя Таварыства кітайска-савецкай дружбы, дэлегацыя Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, пасланцы прафсаюзных арганізацый зарубежных краін.

Урачыстае пасяджэнне адкрывае старшыня выканкома Массавета Н. А. Дыгай.

Велічна гучыць Гімн Савецкага Саюза. Тав. Дыгай ад імя Маскоўскага гарадскога камітэта партыі і Маскоўскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных віншуе ўдзельнікаў пасяджэння з вялікім святам Кастрычніка.

— Дзень нараджэння Вялікай рэвалюцыі мы адзначаем у гэтым годзе асабліва ўрачыста, асабліва радасна, — гаворыць тав. Дыгай. — Толькі што закончыўся вялікі з'езд будаўнікоў камунізма. Гісторыя звычайна пішацца праз гады, дзесяцігоддзі пасля здзяйснення выдатных падзей; толькі з часам значэнне іх становіцца відавочным для ўсіх. Але XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза чалавецтва назвала гістарычным яшчэ да яго адкрыцця. Ён уладарна ўвайшоў у жыццё і ў сэрцы людзей, як з'езд, які заклікан асвятліць усім народам шлях да шчасця і прагрэсу.

І гэты шлях з гранічнай яснасцю і паўнатой, з навуковай дакладнасцю ўказаны ў вялікай харты камунізма — новай Праграме партыі Леніна, указаны ў дакладах вернага прадаўжальніка справы Леніна — Мікіты Сяргеевіча Хрушчова.

Самы прадстаўнічы ў гісторыі нашай партыі XXII з'езд прадэманстраваў маналітнае адзінства радоў дзесяцімільённай арміі камуністаў. Амаль пяць тысяч дэлегатаў, гаворыць прамоўца, адобрылі ленінскі курс, вызначаны XX з'ездам партыі. «І мы — за гэты курс!» — заявілі таксама пасланцы брацкіх партый, якія прадстаўляюць магутную сілу сучаснасці—міжнародны камуністычны і рабочы рух. Ленінскі дух, ленінскія нормы і прынцыпы непадзельна трыумфавалі ў рабоце XXII з'езда.

Адкінута прэч усё чужое нашай партыі, наноснае. Беспаваротна, назаўсёды пакончана з культам асобы і яго апошнімі нікчэмнымі прыхільнікамі.

Прамоўца падрабязна гаворыць аб небывалым энтузіязме, аб актыўнай творчасці мас, натхнёных XXII з'ездам партыі.

Слова атрымлівае дэлегат XXII з'езда КПСС, токар завода «Барацьбіт» К. М. Кручкоў.

З велізарнай радасцю і гордасцю за нашу родную Камуністычную партыю, за нашу слаўную Радзіму сустракаем мы самае светлае свята — 44-ю гадавіну Вялікага Кастрычніка, гаворыць тав. Кручкоў. Сёння гэта свята азорана нягаснучым святлом гістарычных рашэнняў XXII партыйнага з'езда, новай Праграмы — праграмы народнага шчасця.

Сёння, у пярэдадзень 44-й гадавіны Кастрычніка, зноў і зноў успамінаюцца хвалюючыя дні работы з'езда. Мне ж, простаму токару, выпала вялікае шчасце — быць яго дэлегатам.

Дух займае, калі ўдумваешся ў кожны радок новай Праграмы. Гэты найвялікшы маніфест XX стагоддзя запальвае радасцю і надзеяй сэрцы ўсіх сумленных людзей зямлі.

Мы дзякуем нашай партыі за шчасце жыць і тварыць радасна, свабодна, без страху за будучыню. Мы дзякуем роднай партыі за яе вялікую праўду. Праўда чысцей за яснае сонца, гавораць у народзе. Чысцей за яснае сонца і наша родная партыя. Яна асвятляе нам шлях да камунізма, яна падзесецярае нашы сілы.

Мне хочацца сказаць вялікае сардэчнае дзякуй Цэнтральнаму Камітэту партыі на чале з Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым, які праявіў непахісную волю ў барацьбе за ліквідацыю вынікаў культу асобы і аднаўленне ленінскіх прынцыпаў і норм партыйнага і дзяржаўнага жыцця.

На трыбуне кіраўнік агароднінаводчай брыгады камуністычнай працы саўгаса «Бальшавік» Серпухоўскага раёна Маскоўскай вобласці В. М. Рэзнік. Ад імя сельскіх працаўнікоў Падмаскоўя яна горача і сардэчна віншуе ўдзельнікаў пасяджэння са святам Вялікага Кастрычніка.

Сёлетні год калектыў саўгаса «Бальшавік», гаворыць тав. Рэзнік, жыў адным імкненнем, адным жаданнем — апраўдаць высокую ацэнку, якую даў нашай скромнай працы Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў у сваім віншаванні ў лістападзе мінулага года. У адказ на вялікую ўвагу і клопаты аб нас, працаўніках сяла, мы працавалі, не пакладаючы рук, і з гонарам стрымалі слова, якое далі нашай роднай партыі і яе ленінскаму Цэнтральнаму Камітэту.

З прамовай на пасяджэнні выступіў прадстаўнік сталічных вучоных, доктар тэхнічных навук, лаўрэат Ленінскай прэміі В. А. Венікаў.

Мы жывём у такі час, калі навука з'яўляецца арганічнай патрэбнасцю грамадства, тым больш камуністычнага грамадства, будаўніцтва якога мы распачалі, гаворыць тав. Венікаў. Камунізм можа быць пабудаваны толькі ва ўмовах ўсебаковага росквіту навукі, і ён мае патрэбу ў ёй, як ніякі іншы грамадскі лад.

У нас створаны ўсе ўмовы, каб, як гаварыў Ленін, навука сапраўды ўваходзіла ў плоць і кроў, ператвараючыся ў састаўны элемент быцця цалкам і па-сапраўднаму.

Мы, вучоныя, ганарымся тым, што ў Камуністычным маніфесце нашай эпохі—Праграме партыі развіццё навукі ўзводзіцца на ўзровень важнейшых агульнадзяржаўных задач. Яна разглядаецца як зброя рэвалюцыйнага пераўтварэння грамадства і панавання разняволенага чалавека над сіламі прыроды.

Выступае дэлегат XXII з'езда КПСС, памочнік майстра фабрыкі імя Калініна С. А. Котава.

— Вялікі гонар за сваю Радзіму, за народ, за партыю выклікалі ў нас—дэлегатаў з'езда—поспехі, якіх дасягнула наша краіна, — сказала тав. Котава. — І кожны ясна ўсведамляе: усё, чым мы ганарымся, усё, што заваявана намі і будзе дасягнута ў далейшым,—усё гэта народжана Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй, да перамогі якой прывяла працоўных нашай краіны родная Камуністычная партыя на чале з вялікім і мудрым Уладзімірам Ільічом Леніным. Ленін нябачна прысутнічаў і на XXII з'ездзе. Імя бясконца дарагога і любімага ўсімі намі правадыра было на вуснах і ў сэрцы кожнага. Ленінскім рэвалюцыйным духам, ленінскай прынцыповасцю і справядлівасцю прасякнуты ўсе выступленні, усе рашэнні з'езда.

Ад імя прыбыўшай на ўрачыстае пасяджэнне дэлегацыі камсамольцаў і моладзі Масквы ўсхвалявана гаворыць сакратар МГК ВЛКСМ Ю. Д. Машын.

Нам выпала шчасце быць сучаснікамі гістарычнага XXII з'езда ленінскай партыі, гаворыць ён. Пройдуць гады. Але вечна будзе жыць у памяці народаў XXII з'езд, з'езд, які выказаў думы народныя, з'езд, які прыняў Праграму стварэння камунізма.

Уся маскоўская моладзь у адзіным парыве, усім сэрцам, усёй сваёй істотай гаворыць: полымя душы і запал сэрца, наша энергія і воля—табе, **партыя!**

Вялікае, бязмежнае дзякуй роднай Камуністычнай партыі, яе ленінскаму Цэнтральнаму Камітэту і нашаму дарагому Мікіце Сяргеевічу Хрушчову!

Няхай жыве наша Савецкая Радзіма — самая шчаслівая, самая цудоўная на зямлі!

Слава табе, вялікая партыя камуністаў — партыя Леніна, партыя наватараў і тварцоў, якая вядзе нас да перамогі камунізма!

З велізарным натхненнем пад працяглыя апладысменты ўдзельнікі ўрачыстага пасяджэння прымаюць прывітальнае пісьмо Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Пасля ўрачыстага пасяджэння адбыўся вялікі святочны канцэрт, у якім прынялі ўдзел майстры мастацтваў і калектывы мастацкай самадзейнасці.

## СВЯТКАВАННЕ Ў МІНСКУ

Урачыста і радасна адзначаюць працоўныя Беларусі 44-ю гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

6 лістапада ў памяшканні Тэатра оперы і балета адбылося ўрачыстае пасяджэнне Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных сумесна з прадстаўнікамі партыйных, грамадскіх арганізацый і воінскіх часцей. Яго адкрыў старшыня выканкома Мінскага гарсавета В. І. Шарапаў.

Пад бурныя працяглыя апладысменты прысутныя выбіраюць ганаровы прэзідыум у складзе Прэзідыума ЦК КПСС на чале з М. С. Хрушчовым.

Першым бярэ слова ўдарнік камуністычнай працы, слесар Мінскага аўтазавода М. Г. Лебедзеў.

Затым выступаюць брыгадзір будаўнічай брыгады будтрэста № 1 дэлегат XXII з'езда КПСС Т. К. Фандо, дырэктар трактарнага завода Б. Г. Сівак, старшыня калгаса імя Кірава Мінскага раёна А. П. Лішай, машыніст паравознага дэпо станцыі Мінск, ударнік камуністычнай працы М. І. Латушка, студэнтка Мінскага педагагічнага інстытута А. Ф. Сокалава, пісьменнік І. П. Шамякін, брыгадзір здымачнай брыгады камвольнага камбіната Г. С. Розум, генерал-маёр Т. І. Скварцоў.

Прамоўцы ў сваіх выступленнях выказалі пачуцці любві і павагі да роднай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і яе Цэнтральнага Камітэта, адзінадушна ўхвалялі рашэнні XXII з'езда КПСС, велічную Праграму будаўніцтва камунізма.

З вялікім уздымам удзельнікі пасяджэння паслалі прывітальнае пісьмо Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Урачыстае пасяджэнне аб'яўляецца закрытым. Усе ўстаюць і спяваюць партыйны гімн «Інтэрнацыянал».

## КАБ ПАГЛЯДЗЕЦЬ ДЫ ПАРАЎНАЦЬ...

*ФОТАЗДЫМКІ ДЗВЮХ ЭПОХ РАСКАЗВАЮЦЬ*





**Беларусь... Край фабрык і песень, край легенд і машын. Такой стала яна сёння. Дарэвалюцыйнае мінулае засталося толькі ва ўспамінах, у фотаздымках.**

**Таварыш, акінь у думках позіркам сваім Беларусь. Ты ўбачыш квітнеючую маладосць роднай зямлі, ты ўбачыш вялікія змены, што адбыліся за гады Савецкай улады.**

**Вось тут, у Мінску, на скрыжаванні былой Губернатарскай і Захар'еўскай вуліц, стаяў гарадавы, ахоўнік расійскага самадзяржаўя.**

**Губернатарская вуліца...**

**Па Мінску «імчыцца» і бразгае звонка**
**Завулкамі цеснымі цесная конка...**
**На замку астрожным арол двухгаловы**
**Жалезную браму узяў пад ахову.**
**Гракі і вароны на вежах, званіцах...**
**Такою была ты калісьці, сталіца!**

**Далёка ў мінулым гэтыя малюнкі. Не пазнаеш сёння рэспублікі, яе гарадоў і вёсак...**

**...Дарагая Беларусь!**
**Не магло мне і прысніцца,**
**Як ты, родная, ўзрасла.**
**Паглядзі, твая сталіца,**
**Быццам казка, расцвіла.**

**На дзесяць кіламетраў пралёг у Мінску шырокі і светлы Ленінскі праспект.**

(гл. 2, 3, 4 стар.).

